БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

*29 сакавіка 1994 г.*
*Аўторак*
*№ 33 (13750)*
Кошт у розніцу 50 рублёў
Выдаецца з 1921 года


*Малюе Віктар ДУБОВІК*



Конкурс "Міс Універсітэт" адбыўся ў старэйшай ВНУ рэспублікі — БДУ. Першынство аспрэчвалі 11 прэтэндэнтак. У выніку ўладальніцай ганаровага тытула стала студэнтка гістарычнага факультэта Вольга ТАЧЫЛІНА. Спецыялізацыя ў Олі — гісторыя КПСС, і ярка-чырвоны касцюм, відаць, заклікаваны быў сімвалізаваць сцяг сусветнага пралетарыяту.

Такое шоу праводзілася ў Белдзяржуніверсітэце ўпершыню. Але, як запэўнівала рэжысёр студэнцкага клуба і арганізатар конкурсу Аксана ЧУПРЫНА, ён будзе штогадовым.

Віктар ТАЛОЧКА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Еўропа – наш агульны дом

*Беларусь наведала парламенцкая дэлегацыя Германіі на чале са статс–сакратаром бундэстага панам Вільцам.*

— Мэта нашага знаходжання простая: убачыць, як на тэрыторыі Беларусі ажыццяўляецца фінансуемая ўрадам ФРГ жыллёвая праграма для ваеннаслужачых Заходняй групы войск, якія вяртаюцца дамоў, — заявіў Бернд Вільц. — Я быў тут год назад. За гэты час шмат зроблена. Мы наведалі Барысаў, дзе пабудаваны ўжо ваенны гарадок, і пераканаліся, што справы ідуць паспяхова.

Гэты вывад пацвердзіў і першы намеснік міністра абароны Беларусі Аляксандр Тушынскі. У шасці населеных пунктах — Баранавічах, Слоніме, Барысаве, Лідзе, Бярозе, Мар'інай Горцы — кватэры здадзены пад ключ. А ў Росі будаўніцтва ваеннага пасёлка ў хуткім часе завершыцца. Усяго на сродкі нямецкага боку ў рэспубліцы будзе ўзведзена 5.938 кватэр для ваеннаслужачых, што вяртаюцца з Германіі.

### Брытанскае ноў–хаў для беларускага рынку

*Свой уклад у станаўленне фондавага рынку Беларусі зробяць і спецыялісты Лонданскага ноў–хаў фонду, якія завяршылі азнаямленчы візіт у нашу рэспубліку.*

Ініцыятарам прыезду ў Беларусь англійскіх фінансістаў выступіла таварыства "Інтэркантыненталь". Яго прэзідэнт Аляксандр Яловік адзначыў, што напярэдадні пачатку чэкавай прыватызацыі рэспубліцы як ніколі неабходна дапамога замежных спецыялістаў, якія ведаюць становішча спраў на рынку каштоўных папер. Гэта і было падставай для звароту па дапамогу да англійскага ўрадавага ноў-хаў фонду, які аказвае садзейнічанне правядзенню эканамічных рэформ у іншых краінах.

БЕЛІНФАРМ.

### Горкая "падзяка"

*Беларускі канькабежац Ігар Жалязоўскі вярнуўся дадому з апошняга этапу Кубка свету і атрымаў "узнагароду" ад землякоў.*

У суботу ўвечары ад яго дома на вуліцы Заслаўскай у Мінску выкралі аўтамабіль "BMW-525" залацістага колеру з нумарнымі знакамі 15-00 МІ. Калі нехта штосьці даведаецца пра месцазнаходжанне аўтамабіля, няхай пазвоніць па тэлефонах 20-11-37 або 02.

Яўген ПУЧКОЎ.

### Парады Лешака Бальцаровіча

*У Мінску адбыўся навукова–практычны семінар "Шляхі выхаду з эканамічнага крызісу дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы". Яго арганізатарамі сталі Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Беларускі гуманітарны адукацыйна–культурны цэнтр, Аб'яднанне прадпрымальнікаў рэспублікі і Сацыял–дэмакратычная грамада.*

Семінар прыцягнуў да сябе ўвагу перш за ўсё тым, што на ім выступіў былы віцэ-прэм'ер Польшчы Лешак Бальцаровіч. Яго імя звязваецца з рэфармаваннем польскай эканомікі пасля прыходу да ўлады лідэраў прафсаюза "Салідарнасць" на чале з Лехам Валенсай. Многія ідэі "шокатэрапіі паводле Бальцаровіча" выкарысталі ў сваёй дзейнасці расійскія рэфарматары, калі кабінет міністраў узначальваў Ягор Гайдар.

У выступленні на семінары і гутарках з журналістамі Лешак Бальцаровіч даў сваю ацэнку стану беларускай эканомікі. На яго думку, крызісныя працэсы можна спыніць толькі пры ўмовах распрацоўкі канкрэтнай праграмы рэформ. У прыватнасці, адным з галоўных прыярытэтаў павінна стаць фінансавая стабілізацыя на макраэканамічным узроўні, без якой немагчыма нармальнае функцыяніраванне гаспадарчых механізмаў. Трэба дакладна вызначыць кола пытанняў, якімі займаюцца дзяржструктуры.

У семінары прынялі ўдзел многія вядучыя беларускія эканамісты, выказаўшыя свой пункт гледжання на шляхі вываду нацыянальнай эканомікі з глыбокага крызісу. Уласнымі меркаваннямі аб шматлікіх праблемах станаўлення рынačных адносін на Беларусі падзяліўся галоўны банкір рэспублікі Станіслаў Багданкевіч.

Якаў ЯСЭПКІН.

### Існаваць – гэта прысутнічаць усюды

*У нацыянальным прэс–цэнтры Беларусі днямі адбылася прэс–канферэнцыя прэзідэнта "Канада — Беларусь фонду" Алеся ПЯТРОЎСКАГА і намесніка начальніка ўпраўлення знешнеэканамічнай і знешнепалітычнай дзейнасці Саўміна рэспублікі Анатоля АРБІНОВІЧА.*

"Канада — Беларусь фонд" — параўнальна новая арганізацыя, асноўнай мэтай якой з'яўляецца наладжванне больш цесных прамых эканамічных і культурных кантактаў паміж дзвюма краінамі. Пакуль яны, як вядома, на аматарскім або выпадковым узроўні, з-за чаго многія карысныя і для нас культурныя ды эканамічныя праграмы ўрада заакіянскага партнёра мінаюць Беларусь.

Натуральна, чакаць салідных інвестыцый або культурнага абмену з краінай, дзе наша дзяржава не мае нават паўнамоцнага прадстаўніка, — наіўна. Разам з тым наладжванне здаровай сеткі дыпламатычных зносін каштуе вялікіх грошай. "Канада — Беларусь фонд" распрацаваў даволі эфектыўную структуру, якая апіраецца на інстытут ганаровых консулаў, прыклады якога меліся і ў дыпламатычнай гісторыі Швецыі, Нямеччыны ды іншых краін.

У рамках гэтай структуры ў Мінску ўжо дзейнічае "Канадскі клуб", а ў Таронта (канадская правінцыя Антарыо) — "Беларускі клуб".

Алесь Пятроўскі, цяпер грамадзін Канады, правёў немалую падрыхтоўчую працу, заручыўшыся падтрымкай Саўміна і Міністэрства замежных спраў Беларусі. Ён спадзяецца, што ягонае вяртанне ў кастрычніку ў Канаду ўжо будзе, гэтак мовячы, з пэўным пакетам канкрэтнага плёну з беларускага боку.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### Свята музыкі ў школе

*У СШ № 190 Мінска, школе з эстэтычным ухілам, праходзіла чарговае свята музыкі.*

Адбыўся справаздачны канцэрт харавой песні і музыкі вучняў І-8 класаў эстэтычнага цыкла.

На сцэне прагучалі песні не толькі сучасных кампазітараў Л.Захлеўнага, А.Рамізоўскай, былі таксама выкананы творы кампазітараў-класікаў П.І.Чайкоўскага, Э.Грыга, Ш.Гуно.

— Жадаючых прыняць удзел у канцэрце было многа, — гаворыць мастацкі кіраўнік харавога аддзялення Алена Іванаўна Ліпніцкая, — але права выступіць на гэты раз атрымалі лепшыя. Радасцю свяціліся тварыкі юных выканаўцаў. Многія з іх упершыню здавалі такі сур'ёзны экзамен, адказнасць і заклапочанасць была на тварах выкладчыкаў-харавікоў і музычных кіраўнікоў, бо ўрокі музыкі, танцаў, выяўленчага мастацтва ў школе выкладаюцца нароўні з урокамі матэматыкі і мовы.

Удзячнымі слухачамі на канцэрце былі бацькі юных выканаўцаў, іх старэйшыя і малодшыя брацікі і сястрычкі. Усе атрымалі эстэтычнае задавальненне. Поспехаў вам, юныя таленты!

Валянціна ШПІЛЕЎСКАЯ.

### Курсы валют на 28 сакавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 10100 | 10510 | 5970 | 6215 |
| "Пошук" | 10000 | 10500 | 6000 | 6300 |
| "Белбізнесбанк" | 9900 | 12000 | 5700 | 7150 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

## ... Не гандлёвы рад на кірмашы

☐ Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"

*У прэс–канферэнцыі, што адбылася 24 сакавіка, прынялі ўдзел кіраўнікі Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Рэспублікі Беларусь (Міндзяржмаёмасць).*

Намеснік міністра Васіль Давыдзенка і яго калега Казімір Раманоўскі, начальнікі ўпраўленняў каштоўных папер, арганізацыі чэкавай прыватызацыі Уладзімір Магілявец, Зінаіда Шаўчэнка расказалі аб бліжэйшых мэтах у справе прыватызацыі дзяржмаёмасці, праведзенай тэрытарыяльнымі камісіямі рабоце, адказалі на хвалюючыя пытанні.

Няма чаго граху таіць: большасць насельніцтва да гэтага часу толкам не ведае, што гэта за штука — Закон аб імянных прыватызацыйных чэках.

Дык вось, на атрыманыя ў Ашчадных банках чэкі насельніцтву належыць прыватызаваць нямала дабра — палову рэспубліканскай дзяржаўнай маёмасці. Яе кошт, паводле розных падлікаў, складае каля 23 трыльёнаў беларускіх рублёў. Але імгненна разбагацець на акцыях, якія можна будзе набыць на чэкі, канешне ж, нельга, хоць і намінальная вартасць, напрыклад, чэка "Маёмасць" вызначана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у 25 тысяч рублёў. Чаму нельга разбагацець? Ды таму, што ўсё залежыць ад эфектыўнасці работы акцыяніраванага прадпрыемства. Бо на справе чэк — гэта ўсяго дывідэндны падатак на прадпрыемствы, які сілком прымушае іх выплачваць тысячам умоўных акцыянераў, што атрымаюць з рук Міндзяржмаёмасці права патрабаваць сваёй долі прыбытку, імі не заробленага, не створанага і якога не прымнажаюць.

Да таго ж, у ліку аб'ектаў, якія неабходна прыватызаваць, ільвіную долю займаюць прадпрыемствы гандлю, паслуг, грамадскага харчавання, адну трэцюю — аб'екты камунальнай гаспадаркі. На большасці акцыяніруемых прадпрыемстваў зношаны і патрабуюць тэрміновай замены асноўныя фонды. А таму, натуральна, прыбытку і дывідэндаў, наогул, можа не быць некалькі гадоў запар. Недарма ж прыкмечана — у ялавай каровы малака не выціснеш. І, канешне ж, сярод насельніцтва з'явяцца расчараваныя ў спадзяванні на магчымыя дывідэнды, а самыя нецярплівыя паспяшаюцца пазбавіцца ад сваіх чэкаў за любыя грошы, бо абмен па формуле "намінал за намінал", гэта значыць акцыі на дваццаць пяць тысяч рублёў за адзін чэк, магчымы вельмі ў рэдкіх выпадках. Часцей будуць адхіленні, іншы раз нават значныя. Усё зноў жа будзе залежаць ад рэнтабельнасці прадпрыемства.

І другі бок медаля. Эканоміка рэспублікі не выйшла з крызісу, інфляцыя ідзе хутчэй на парадак, чым у суседняй Расіі. У прыватнасці, маёмасць падаражала за кароткі тэрмін у 1600 разоў, значыць, практычна не хопіць сродкаў, каб выкупіць ва ўласнасць больш буйныя і рэнтабельныя прадпрыемствы, а ад дробных фабрык-заводаў асноўны прыбытак па акцыях людзі атрымаюць хутчэй за ўсё не ў выглядзе дывідэндаў, а ў выніку ўзрастання курсавай вартасці каштоўных папер ад будучага павелічэння рэнтабельнасці аб'ектаў. Але зноў жа не многія пагодзяцца чакаць тры, пяць, сем гадоў, тым больш, не маючы цвёрдай гарантыі, што пасля атрымаюць па павышанай стаўцы.

Што тычыць прыватызацыйных чэкаў "Жыллё", то, як растлумачыў намеснік міністра Васіль Давыдзенка, іх можна скарыстаць па прызначэнню на прыватызацыю жылля і ў справе будаўніцтва кааператыўных кватэр, бо чэк, па сутнасці, — сродак аплаты. У прыватнасці, у сярэднім чалавек атрымае 50 прыватызацыйных чэкаў агульнай намінальнай вартасцю каля двух мільёнаў рублёў.

А вось як дапамагчы людзям скарыстаць свой чэк з толкам, выгадай? Начальнік упраўлення каштоўных папер Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Магілявец растлумачыў, што з гэтай мэтай сфарміраваны яшчэ адзін элемент у сістэме прыватызацыі — інвестыцыйны фонд, устаўны капітал якога на сёння складае каля 50 мільёнаў рублёў. Чэк укладчыка агароджаны будзе трайной абаронай — ліцэнзіямі, кожную з якіх асобна атрымаюць усе тры звяны, маючыя адносіны да чэкавых укладаў. Гэта значыць, чэкавы фонд і асоба ці кампанія, кіруючая гэтым фондам, атрымаюць асобныя ліцэнзіі як розныя фінансавыя інстытуты. Урэшце, сваю ліцэнзію маюць і дэпазітары, дзе будуць захоўвацца гэтыя чэкі. Вось таму рызыка страціць чэк дарэмна ў фондзе куды меншая, чым, дарэчы, пры набыцці акцыі якога-небудзь прадпрыемства самастойна.

Адным словам, ідзе апошняя падрыхтоўка да важнай эканамічнай кампаніі — прыватызацыі дзяржмаёмасці. На 15 сакавіка ў тэрытарыяльныя камісіі з заявамі аб налічэнні чэкаў "Маёмасць" звярнулася больш 283 тысяч чалавек. Гэта лічба складае 3,3 працэнта ад агульнай колькасці грамадзян, якія маюць права на атрыманне чэкаў.

Адначасова Міндзяржмаёмасць праводзіць работу па размяшчэнню чэкаў. У прыватнасці, на 140 прыватызаваных яшчэ ў 1993 годзе аб'ектах зарэзервавана долей і акцый на суму больш як 260 мільярдаў рублёў для продажу за чэкі "Маёмасць", які намераны распачаць з 1 ліпеня гэтага года, каб за тры месяцы пасля выдачы сертыфікатаў гэтых чэкаў даць магчымасць большай часткі насельніцтва атрымаць іх і вызначыць напрамкі выкарыстання чэкаў.

Адным словам, рынак каштоўных папер — не гандлёвы рад на кірмашы, а права грамадзян на іх долю ўласнасці.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С. КІРЫЕНКА, Д. ЛІТВІН, рэдактар Я. ЯСЭПКІН.*

## "Еўраньюс"

### Дэманстрацыя ў Брусэлі

*У нядзелю ў сталіцы Бельгіі — Брусэлі прайшла дэманстрацыя, у якой удзельнічалі 24 тысячы чалавек.*

Мэтай гэтай акцыі, арганізаванай рознымі партыямі і рухамі, стала жаданне прыцягнуць увагу ўрадаў краін Еўропы да праблем расізму ў дзяржавах Еўрапейскага супольніцтва.

### Алабамская трагедыя

*Не менш як 17 чалавек загінула ў ЗША, у штаце Алабама, у выніку разбурэння адной з цэркваў.*

Яшчэ 19 вернікаў атрымалі цяжкія раненні. У час службы ў царкве гіганцкі шторм паваліў сцяну, калі ўнутры знаходзілася 140 чалавек. Пацярпелі і вернікі-баптысты, якія маліліся ў другой царкве, размешчанай паблізу. Тут таксама некалькі чалавек атрымалі пашкоджанні рознай ступені.

### Баснійскія сербы супраць падзелу краіны

*Упершыню за тыя часы, пакуль ідзе вайна ў Босніі–Герцагавіне, прадстаўнікі баснійскіх сербаў выказаліся супраць падзелу краіны.*

## "Суперчэннэл"

На сходзе, які адбыўся ў Сараева і ў якім прынялі ўдзел 500 дэлегатаў, былі таксама прадстаўнікі ЗША і Расіі.

### Патрабаванне да Грэцыі

*На сустрэчы міністраў замежных спраў краін Еўрапейскага супольніцтва было выказана патрабаванне да Грэцыі зняць эмбарга ў адносінах да Македоніі.*

Міністр замежных спраў Германіі Клаўс Кінкель прапанаваў грэчаскай дэлегацыі прыняць такое рашэнне да чэрвеня, калі скончыцца тэрмін праўлення цяперашняга ўрада Грэцыі.

## "Уорлднэт"

### Катастрофа на чыгунцы

*У Егіпце здарылася катастрофа — сутыкнуліся два цягнікі.*

Трагедыя адбылася недалёка ад горада Кафр-эль-Шэйх. Сама меней 75 чалавек паранена, 11 знаходзяцца ў цяжкім стане.

### Лепш растлумачыць, чым забараняць

*Галоўны хірург Злучаных Штатаў заявіў, што поўная забарона тытунекурэння ў выніку прыняцця адпаведнага законапраекта пакіне мільёны амерыканцаў "пакутуючымі наркаманамі", але ніяк не вырашыць праблему.*

Выступаючы па каналу Сі-бі-эс, доктар Джоселін Эдлерс сказаў, што ўрад і міністэрства аховы здароўя, у прыватнасці, павінны праводзіць пастаянную тлумачальную работу. Гэта, паводле яго слоў, прынясе больш карысці, чым рэзкая забарона ўжывання, вытворчасці і продажу тытунёвых вырабаў.

### Стрэйзанд жадаюць бачыць усе

*Жаданне пабачыць рэдкі канцэрт Барбары Стрэйзанд стала непераадольным для тысяч і тысяч амерыканцаў, якія выстойваюць вялізныя чэргі і літаральна "вісяць" на тэлефоне, спадзеючыся дастаць білет. Яго ўнушальны кошт (350 даляраў) мала каго спыняе.*

## "TV-5"

Прадстаўнік славутай "зоркі" аб'явіў, што яму патэлефанавалі ўжо каля 5 мільёнаў чалавек. У кіламетровых чэргах ля кас-аўтаматаў і кас канцэртнай залы людзі спадзяюцца ўбачыць Стрэйзанд, якая не вельмі бавіць публіку "жывымі" выступленнямі. Менеджэры сцвярджаюць, што білеты на 12 запланаваных спачатку канцэртаў, да якіх прыйшлося далучыць яшчэ 6, былі прададзены за адну гадзіну.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

## Няма нічога ліхога...

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч станоўча ацаніў прынятае парламентам рашэнне аб абмежаванні крэдытнай эмісіі. На яго думку, гэта будзе садзейнічаць стабілізацыі становішча ў грашова-крэдытнай сферы. Камерцыйныя банкі ў адпаведнасці з рашэннем Нацбанка зноў ажыццяўляюць аперацыі з расійскімі рублямі як з замежнай валютай. Каменціруючы сітуацыю, якая склалася пасля прыняцця Саветам Міністраў рашэння ад 11 сакавіка аб накіраванні ўсёй валютнай выручкі прадпрыемстваў у валютны рэзервовы фонд Нацбанка ў сувязі з неабходнасцю пагашэння запазычанасці перад Расіяй за пастаўляемыя энерганосьбіты, Станіслаў Багданкевіч адзначыў памылковасць дадзенага рашэння. Яно не прынесла адчувальных выгад і ў той жа час нанесла вялікі ўрон іміджу нашай краіны. Старшыня праўлення Нацбанка станоўча ўспрыняў адмену гэтага рашэння. Ён спрагназіраваў далейшае падзенне курса разліковага білета ў адносінах да канверсуемых валют і расійскага рубля. На яго думку, курс будзе зніжацца да таго часу, пакуль будуць існаваць праблемы з выплатай запазычанасці Расіі.

**БелаПАН.**

## Малы бізнес і статыстыка

Як сведчыць вопыт развітых краін, сацыяльная рынкавая эканоміка немагчыма без так званага малога і сярэдняга бізнесу. Таму разам з буйнымі аб'яднаннямі, карпарацыямі, канцэрнамі існуе шырокая сетка малых прадпрыемстваў. У сярэднім на Захадзе МП даюць 50—60 працэнтаў валавога нацыянальнага прадукту. А, напрыклад, у Швейцарыі, дзе самы высокі ўзровень жыцця (сярэдняя зарплата складае 3,5 тысячы даляраў), — 80 працэнтаў. У ЗША налічваецца 19 мільёнаў сапраўды малых прадпрыемстваў: на 90 працэнтаў іх заняты не больш як 15 чалавек. Аднак яны ствараюць 40 працэнтаў валавога нацыянальнага прадукту і 80 працэнтаў — новых працоўных месцаў. Вельмі часта на канвеер буйной фірмы камплектуючыя пастаўляюць сотні і нават тысячы дробных прадпрыемстваў. У выніку вялікі бізнес культывуе малы.

Што тычыцца Беларусі, паводле звестак Дзяржаўнай падатковай інспекцыі, за мінулы год колькасць суб'ектаў гаспадарання павялічылася на 34,9 працэнта. Такім чынам, прырост новых прадпрыемстваў у параўнанні з 1992 годам склаў 18 тысяч адзінак. На пачатак 1994 года на рэспубліканскім рынку было зарэгістравана 199.500 суб'ектаў гаспадарання. Аднак развіццё малога і сярэдняга бізнесу на Беларусі, без якога немагчыма ўваходжанне ў цывілізаваны рынак, пакідае жадаць лепшага. Трэба падкрэсліць, што гэты працэс часта цалкам залежыць ад кампетэнцыі мясцовых органаў улады. Вельмі паказальны ў гэтым напрамку вопыт гарадоў Маладзечна, Слуцка, Пінска, дзе працэсам станаўлення прадпрымальніцтва кіруюць спецыялісты з сучаснымі поглядамі і ведамі законаў эканомікі, і дзе адпаведна прадпрымальніцтва развіваецца больш хутка.

Але актыўнай дапамогі мясцовых улад недастаткова. 73 працэнты з 116 дэлегатаў апошняга з'езда Саюза прадпрымальнікаў Беларусі лічаць асноўнай перашкодай на шляху развіцця бізнесу палітычную і эканамічную нестабільнасць у рэспубліцы, недакладнае заканадаўства і незбалансаванасць падатковай палітыкі, 50 працэнтаў — адсутнасць дзяржаўных гарантый бізнесу, 38 працэнтаў — карупцыю, 10 працэнтаў — негатыўныя адносіны да прадпрымальнікаў з боку насельніцтва і 10 — высокі ўзровень арганізаванай злачыннасці.

* * *

На сённяшні дзень у Літве найбольш распаўсюджаным і папулярным бізнесам з'яўляецца гандаль патрыманымі аўтамабілямі. Маюцца на ўвазе машыны замежных марак, буйныя цэнтры па продажу якіх знаходзяцца ў Вільнюсе, Каўнасе, Марыямпалі, Уцене і Рыетвасе.

* * *

Тры даляры ЗША — такая такса будзе збірацца з усіх, хто жадае трапіць у Калінінградскую вобласць з боку літоўскай і польскай мяжы, у адпаведнасці з новым распараджэннем аб парадку аплаты ўезду. Вызваляюцца ад уплаты грамадзяне СНД, Літвы і Польшчы.

---

**БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ**

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук

# ЛЁС БЕЛАРУСА

## III. Эканоміка-матэрыяльныя асновы нацыянальнай самасвядомасці

Пазітыўнага зруху ў спыненні далейшага размывання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў нельга дамагчыся, калі іх край будзе вызначацца, як сёння, нізкім узроўнем прадукцыйных сіл і ключавыя пазіцыі ў эканоміцы акажуцца ў дзялкоў замежнага капіталу, у руках прадстаўнікоў іншых народаў. Існуе рэальная небяспека, што пры нашай сучаснай беднасці мы гэтаму апошняму фактару проста можам не надаць асаблівага значэння, лічачы галоўным любымі сіламі і сродкамі выйсці з эканамічнага тупіка. Тут трэба быць надзвычай абачлівым, старанна вывучаць, наколькі шчырым з'яўляецца іх жаданне супрацоўнічаць з намі, інакш можа здарыцца такое, што замест мяркуемага выйгрышу мы панясём новыя страты. Сусветны вопыт вучыць, што часта такое гаротнае становішча той ці іншай краіны вельмі спрытна выкарыстоўваюць чужародныя элементы, бессаромна набіваючы свае кішэні на людскім горы. Знешне яны нібыта і дапамагаюць пераадолець эканамічныя цяжкасці, але, калі ўважліва прыглядзецца да канкрэтных дзеянняў такіх месіянераў, няцяжка заўважыць непрыхаваную зацікаўленасць іх палепшыць асабіста сваё фінансавае, матэрыяльнае становішча. Законы рыначнай эканомікі вельмі жорсткія і з імі нельга не лічыцца, калі хочаш выжыць, стварыць нармальна развітое грамадства.

Вывесці наш край з заняпаду змогуць толькі моцна заклапочаныя яго лёсам, апантаныя нацыянальнай ідэяй беларусы. У гэтым ім істотна, без выгады для сябе не дапамогуць ні Расія, ні Украіна, ні Польшча, ні якая-небудзь іншая суседняя ці аддаленая краіна. У кожнай з іх свае праблемы. З імі можна толькі супрацоўнічаць на ўзаемавыгадным эканамічным грунце, чакаць жа бескарыслівай падтрымкі ад іх нерэальна, бо яны самі сутыкаюцца з неверагодна вялікімі цяжкасцямі. Але, каб такіх і не зведвалася, усё роўна інтарэсы пералічаных і іншых краін на Беларусі будуць больш вынікаць з іх унутраных патрэб, чым нашых нацыянальных. Практыка не ведае такіх выпадкаў, каб прадпрымальнікі, укладваючы капіталы ў чужыя краіны, больш дбалі пра іх інтарэсы, чым пра свае ўласныя. Таму трэба вельмі асцярожна, узважана ставіцца да прыцягнення на Беларусь замежнага капіталу, каб не трапіць у кабалу да спрактыкаваных дзялкоў рыначнай эканомікі.

Ускладанне асноўнай ролі ў пераадоленні заняпаду, выхаду з крызісу на прадпрымальнікаў, дзелавых людзей беларускага паходжання абавязвае дзяржаву строга ўлічваць гэты фактар пры арганізацыі ў рэспубліцы гаспадарчага жыцця. Стварэнне такім людзям найбольш спрыяльных умоў нічога агульнага не мае з нацыяналізмам, як ён разумеецца марксістамі. Нічога, бо толькі такія людзі, адчуўшы рэальную падтрымку дзяржавы, грамадства, на сваю дзейнасць будуць глядзець не як на сродак уласнага ўзбагачэння, а ўмову вываду Бацькаўшчыны з эканамічнага хаосу, заняпаду. Маючы падтрымку народа, хтосьці з іх, напэўна ж пры першых магчымасцях, матэрыяльна, фінансава дапаможа яму ў адраджэнні нацыянальнай культуры і мовы. Толькі ў асяроддзі такіх прадпрымальнікаў, асабліва з належнай этнічнай самасвядомасцю, набудзе шырокі рух мецэнацтва, без якога нідзе і ніколі не адбывалася сапраўднага адраджэння нацыянальнай культуры і мовы. Усе тыя прадпрымальнікі на Беларусі, што выхаваны ў рускай ці іншай культурна-моўнай стыхіі і ўпарта імкнуцца заставацца адданымі ёй, пры дасягненні поспеху ў сваёй эканамічнай дзейнасці наўрад ці будуць дзяліцца сродкамі з беларускай культурай і мовай, праяўляць клопат аб нацыянальным духоўным жыцці нашага краю, бо іх непасрэдныя інтарэсы фарміруюцца пад уплывам зусім іншых культурных вартасцей.

Улічваючы сказанае, нельга баяцца ісці на стварэнне самых спрыяльных фінансава-эканамічных умоў для заснавання і развіцця беларускага нацыянальнага прадпрымальніцтва. Усё нашае жыццё, а не толькі духоўная сфера, павінна мець нацыянальнае аблічча, і зрабіць яго такім могуць толькі самі беларусы і не ў апошнюю чаргу тыя, што занятыя на кіруючых пасадах, асабліва рэспубліканскага маштабу, у сферы эканомікі.

Такім чынам, стварэнне на Беларусі нацыянальных па зместу і духу прадпрымальніцкіх структур, заняцце кіруючых пасад у іх асобамі карэннай нацыянальнасці — адно з найважнейшых патрабаванняў часу. Гэта ж не толькі спрыяльна паўплывае на эканамічнае жыццё Рэспублікі Беларусь, але і пасадзейнічае фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці ў такога важнага пласта нашага грамадства, як прадпрымальнікі, якія здольныя зрабіць вырашальны ўплыў на кансалідацыйныя працэсы ў асяроддзі беларускага народа ў цэлым, надзейна захаваць яго ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі, што яшчэ і сёння нельга здымаць з парадку дня.

Не сакрэт, што апошнім часам у нас узнікае вялікая колькасць розных аб'яднанняў і таварыстваў, дзейнасць якіх скіравана супраць нацыянальных інтарэсаў беларускага народа. Часта не толькі патаемна, але і адкрыта вядзецца імі барацьба супраць нашай культуры і мовы. Калі падобным аб'яднанням і таварыствам удаецца запанаваць у сферы эканамічнага жыцця, іх наступ на беларускую культуру і мову набывае такі размах, што ўжо ніякая дзяржава не выратуе гэтыя каштоўнасці, і іх асноўным носьбітам будзе наканавана поўная асіміляцыя. Перыядычны друк, што знаходзіцца на фінансаванні розных камерсантаў і бізнесменаў, ужо практычна выйшаў з-пад нашага кантролю і ўсю дзейнасць будуе ў антыбеларускім духу. Тут голасу беларускіх нацыянальных прадпрымальнікаў амаль зусім не чуваць. Баль правяць чужыя Беларускаму краю людзі. Эканамічныя магчымасці іх да такой ступені выраслі, што яны сваёй антыбеларускай друкаванай прадукцыяй запаланілі ўсе нашыя кіёскі. У барацьбе за масы яўная перамога на баку чужародных Беларусі элементаў.

Гістарычны вопыт народаў, не выключаючы і наш уласны, сведчыць, што асабліва глыбока ўсведамляюць далучанасць да карэннага насельніцтва свайго краю, моцна дбаюць пра яго эканамічны і культурны росквіт людзі, праца якіх непасрэдна звязана з зямлёй, і асабліва тыя з іх, што займаюць вядучыя пазіцыі ў гэтай сферы вытворчай дзейнасці. На вялікае наша гора, лёс так распарадзіўся, што ў ёй яшчэ ў сярэднявеччы беларусы пачалі страчваць сваю ролю, паступова аддаючы перавагу прышлым польскім магнатам і шляхце. Пазней, калі Беларусь падпала пад уладу Расійскай імперыі, на нашых землях трывала аселі памешчыкі рускага паходжання. У выніку ў нас сфарміраваўся слой самых буйных землеўладальнікаў, які этнічна быў чужым для нашага краю, клапаціўся не столькі аб развіцці яго прадукцыйных сіл, колькі аб атрыманні максімальнага даходу на ўкладзены капітал. Яшчэ ў меншай ступені людзі дбалі пра духоўнае жыццё беларусаў. Польскія паны і рускія памешчыкі былі тут выключна толькі праваднікамі сваёй нацыянальнай культуры. Сярод буйных магнатаў толькі адзінкі паходзілі з карэннага насельніцтва. Прычым аказвалі зусім нязначны ўплыў на яго этнічную самасвядомасць, бо самі не вызначаліся высокім узроўнем яе. Такія магнаты і сотай долі не зрабілі з таго, што ажыццявілі тут польскія і рускія землеўладальнікі для ўзняцця нацыянальнага прэстыжу сваіх народаў, іх культур і моў.

Пра ўсё гэта зусім невыпадкова вядзецца гаворка. Мы жывём у час, калі павінны адбыцца вельмі істотныя перамены ў формах землекарыстання, калі зямля можа стаць прадметам куплі і продажу. Сёння беларусы не самыя багатыя ў сябе дома. Яны ўступаюць многім народам ва ўменні рабіць бізнес з нічога. Прывучаныя жыць па прынцыпу "Не высоўвайся", яны страчваюць там, дзе хтосьці набывае багацце. І ў найбольшай ступені ўсё гэта вельмі характэрна для селяніна, жыхароў вёскі. Улічваючы нізкі ўзровень прадпрымальніцтва беларускай нацыі, нельга дапусціць, каб ён з кімсьці канкурыраваў у набыцці зямлі, што б гэты канкурэнт ні абяцаў дзяржаве ў сэнсе кардынальнага пераўтварэння аграрнага сектара эканомікі ў сапраўдную жытніцу рэспублікі. І тут, як і ў многіх іншых сферах народнай гаспадаркі, трэба разлічваць на ўласныя людскія сілы. Лозунг "Беларуская зямля належыць яе дзецям" павінен стаць галоўным у нашых планах па рэфармаванню вытворчых адносін у гэтай сферы дзейнасці чалавека. Калі нам удасца зрабіць асноўным гаспадаром у ёй беларусаў — яны не будуць глядзець на зямлю толькі як на сродак асабістага ўзбагачэння, бязлітасна эксплуатаваць яе дзеля атрымання максімальнага прыбытку. На зямлю яны будуць глядзець як на нешта куды больш важнае ў жыцці, як на аснову існавання не толькі самога сябе, але і ўсіх наступных пакаленняў свайго роду. Падобныя адносіны да зямлі, арганічнае ўрастанне ў тое месца, дзе жывеш — ёсць найпершая і найгалоўная аснова мясцовага патрыятызму, без якога не існуе патрыятызм нацыянальны. У якой ступені пачуццё гаспадара на зямлі садзейнічае фарміраванню і росту нацыянальнай свядомасці, у такой ступені яна ўзгадоўвае ў чалавека адказнасць за разумнае выкарыстанне багаццяў роднага краю. Вёска не дала памерці, забяспечыла выжыванне беларускага народа ў перыяд надзвычай небяспечных паланізацыі і русіфікацыі, і цяпер яна выратуе нас ад поўнага нацыянальнага заняпаду, калі зямля застанецца ў руках беларускіх сялян, і калі мы ўсе дапаможам ім перайсці да цывілізаваных формаў арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Такое не адбудзецца тады, калі вялікія абшары нашай зямлі апынуцца ў руках уласнікаў, якія генетычна не звязаныя з ёй, альбо пяройдуць да чыста выпадковых людзей, якія на такім родзе заняткаў проста захочуць нажыць сабе капітал любой цаной, не спыняючыся нават перад грубым парушэннем законаў экалогіі. Узорам арганізацыі працы і побыту павінны стаць для нас краіны Заходняй Еўропы, дзе, нягледзячы на ўзмацненне працэсаў урбанізацыі, стандартызацыі культуры, сялянства працягвае заставацца надзейным носьбітам нацыянальных духоўных традыцый, моцна ўплываючы на стан культуры народа ў цэлым.

Лішнім было б даказваць, як шмат зрабіла для розных народаў свету купецтва. Найбольш тыповыя яго прадстаўнікі ўвайшлі ў якасці герояў у мастацкую літаратуру, музычныя творы, з вялікім гонарам глядзяць на нас з палотнаў вядомых жывапісцаў. Мы ж гэтым не можам пахваліцца і ўсё па сваёй неабачлівасці і праставатасці. Вось пацвярджэнне са статыстычных крыніц 50-60 гадоў мінулага стагоддзя: у Мінскай губерні сярод асоб купецкага звання на яўрэяў падала 89 працэнтаў. У іх руках знаходзілася 95 працэнтаў агульнай колькасці купецкіх і мяшчанскіх крамаў. Яшчэ большы працэнт (98) падаў на яўрэяў у Гродзенскай, а вось у Віленскай губерні, дзе нямала жыло літоўцаў і палякаў, яўрэі ўжо не так вольна сябе пачувалі, бо на іх прыпадала 74 працэнты ўсёй колькасці купцоў. Не будзем забывацца на горкі вопыт свайго мінулага і зробім так, каб і ключавыя пазіцыі ў гандлі заставаліся за беларусамі. Вядома, не ўсе, але хтосьці і з іх пэўную частку зароблены х грошай выдзеліць для патрэб нашага сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Вялікая ў мінулым прыкутасць беларусаў да зямлі, неканкурэнтаздольнасць нават у сябе дома ў барацьбе за заняцце прэстыжнага месца ў грамадскім падзеле працы прывялі да таго, што яны з цягам часу перасталі быць гаспадарамі ў жыцці гарадоў, роля якіх вельмі высокая як у фарміраванні народнасцей, так і нацый. Істотныя страты пазіцый беларусаў у гарадах назіраліся ўжо ў XVIII ст., а з пазнейшым увядзеннем царскім урадам рысы аселасці для яўрэяў становішча яшчэ больш пагоршылася. У сярэдзіне XIX ст. у гарадах Беларусі на долю яўрэяў даводзілася ад 50 да 75 працэнтаў жыхароў. Колькасна пераважалі беларусаў у гарадах палякі, а пазней і рускія. Няцяжка зразумець, што б сталася з французамі, немцамі, італьянцамі, англічанамі, рускімі, палякамі і г.д., каб і яны былі выцеснены са сваіх гарадоў прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей. Падзялілі б лёс беларусаў і сёння ваявалі б за духоўнае выжыванне.

Цяпер беларусы трывала трымаюць за сабой першае месца па ўдзельнай вазе ў складзе гарадскога насельніцтва, і гэта станоўчы фактар у іх сацыяльна-культурным развіцці. Ён адыграваў бы яшчэ большую ролю, калі б на беларусаў адпаведная ўдзельная вага падала і сярод кіруючых работнікаў прамысловасці, транспарту, гандлю. Наданне беларусам, як карэннай нацыі, пэўнай прэстыжнасці з мэтай забеспячэння за імі вядучага месца на ўсіх рашаючых участках эканамічнага жыцця не павінна ўспрымацца прадстаўнікамі нацменшасцей як ушчамленне іх сацыяльных правоў, бо ў той час, калі над беларускім народам ва ўвесь рост пастаўлена задача выжывання як самабытнай этнічнай адзінкі, па-сапраўднаму ўсвядоміць трагізм і часам зрабіць нават штосьці неверагоднае дзеля свайго выратавання могуць толькі самі беларусы. Калі ж сфера эканомікі апынецца ў руках чужых камерсантаў і бізнесменаў, а беларусы ў лепшым выпадку будуць заставацца ў іх на становішчы клеркаў, у горшым — у якасці простай наёмнай рабочай сілы, спадзявацца на штосьці пазітыўнае ў іх этнічнай самасвядомасці, змаганні за нацыянальную ідэю — справа зусім безнадзейная. Яны павінны перш за ўсё адчуць сябе гаспадарамі ў сваім уласным доме. А такое магчыма толькі тады, калі іх рука будзе знаходзіцца на пульце кіравання не толькі дзяржаўнымі, грамадска-палітычнымі, але і адміністрацыйна-гаспадарчымі структурамі, аб'яднаннямі, прадпрыемствамі і г.д., словам, усюды, дзе ствараюцца матэрыяльныя асновы існавання беларускага этнасу.

(Працяг будзе.
Пачатак у № 31, 32).

---

**ЖЫЦЦЁВАЯ ДРАМА З ВІДАМ НА ТУРМУ**

# Родная кроў

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*Яна прыехала з Віцебска ў рэдакцыю "Чырвонай змены", каб расказаць пра зламаны лёс свайго ўнука. 72–гадовай бабульцы нялёгка перамяшчацца плацкартай у чужы горад, шукаць сталічную рэдакцыю, патрэбных людзей... Яшчэ больш нялёгка мець 21–гадовага ўнука, у якога ўжо тры судзімасці, язва, няма бацькоў, няма дома. Якога любіш да болю, а боль, таму што вырас на вачах з маленькага стрыжанага хлопчыка ў брытага юнака. І шкада, таму што родная кроў. І дапамагчы хочацца, а дапамагчы няма чым... Пачалося ўсё ў Віцебску.*

* * *

Дом, дзе жыве Зінаіда Фёдараўна — бабуля неаднаразова асуджанага Анджэя Пышкіна, давялося шукаць на самым ускрайку горада, у адным з тых раёнаў, куды прасцей дабірацца пешшу, чым чакаць рэдкага рэйсавага аўтобуса. Прыватны сектар, апошняя драўляная хата, за якой — крутая гара, палі і ніякіх гарадоў. Доўга барабаню ў дзверы, брынкае брамка, акампаніруюць два сімпатычныя сабачкі, на шум з'яўляецца гаспадыня.

Зінаіда Фёдараўна, як і большасць бабулек, маленькага росту, хударлявая, калі пачынае гаварыць пра ўнука, апускаюцца вугалкі рота, дрыжыць голас, часта-часта мігаюць набраклыя слязой вочы. Жаночая любоў да вінаватага сына, унука заўсёды прапітана асаблівым горка-вільготным спачуваннем, для 72-гадовай Зінаіды Фёдараўны гэтае пачуццё, як мне падалося, зрабілася асноўным у жыцці, што нейкім чынам як бы трошкі рэабілітуе родную кроў, зачыненую дзесьці ў Івацэвіцкай калоніі строгага рэжыму.

Мы сядзім у Зінаіды Фёдараўны ў больш чым бедна абсталяваным пакоі — быт нашых бабулек не мяняецца дзесяцігоддзямі — і гаворым пра лёс Анджэя.

Самая ўспрымальная пара — дзяцінства. Для значнай большасці — яшчэ і ружовая пара. Поўны бацькоўскі камплект, дробныя, але бесперапынныя жыццёвыя радасці, пяшчотная старая бабуля. Маленькаму Пышкіну пашанцавала менш, чым дзецям са шчаслівых сем'яў, і да ружовых сентыментальных успамінаў, якія наскрабуцца, верагодна, нават у дзетдомаўца, прымешваецца шэрая фарба бяздомнага і інтэрнацкага існавання пры жывых бацьках. Маці — алкагалічка, пазбаўлена бацькоўскіх правоў. Бацька сам (!) адмовіўся ад бацькоўскіх правоў.

Сямейныя закалоты, новая жонка бацькі, вакханаліі з кватэрай ні ў якім выпадку не садзейнічалі нармальнаму жыццю падлетка, які ўзяў сабе столькі самастойнасці, колькі хацеў. Інтэрнат, Магілёўская школа для "цяжкіх" падлеткаў. Збягаў, валацужнічаў, краў. Трапіў у "псіхушку." Дыягназ, пастаўлены ў псіхіятрычнай бальніцы, — патахарактаралагічнае фарміраванне асобы з-за неспрыяльных умоў выхавання. Лячэнне: тэрапія занятасцю, прафілактычна-тэрапеўтычныя размовы. Бачна па ўсяму, не дапамаглі прафілактычна-тэрапеўтычныя размовы Анджэю. Піць пачаў у Магілёўскай спецшколе, калі хадзіў у самаволку, курыць — з сямі гадоў. Прымаў таксічныя і наркатычныя рэчывы.

Першы раз судзілі Анджэя ў 90-м годзе ў 18-гадовым узросце. У нецвярозым стане ўзяў у віцебскім універмагу "Цэнтральны" куртку. Не на продаж узяў — сабе. Спадабалася, значыць. За ўпадабаную куртку і спробу ўгону аўтатранспарту "начапілі" кучу артыкулаў і адзін год папраўчых работ па месцы жыхарства з утрыманнем 20 працэнтаў на карысць дзяржавы. Папраўчыя работы па месцы жыхарства — гэта яшчэ не турма, але да яе ўмоўна асуджаныя бліжэй, чым хто.

"Любоў" да чужых рэчаў "выйшла бокам" раней, чым скончыўся першы тэрмін. Памятаеце, не так даўно была нядобрай памяці мода на балконныя крадзяжы безабаронных, ледзь падсохлых джынсаў, пуловераў і г.д., якія наіўныя ўладальнікі, забыўшыся пра асцярожнасць на карысць ахайнасці, развешвалі на вяровачках у трох метрах ад зямлі. Анджэй Пышкін быў адным з тых, хто лазіў па балконах і браў спартыўныя і імпартныя рэчы. І, трэба сказаць, шмат паспеў налазіць і набраць, пакуль злавілі. "Выпадкова, — сказаў мне Анджэй. — Аднаго разу ўзяў з сабой напарніка, таго злавілі п'янага на матацыкле, ён усё і расказаў". Гэтым разам прысудзілі два гады і тры месяцы пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі агульнага рэжыму і выправілі ў Магілёў. Тэрмін адседзеў цалкам, хаця шмат хто ў такіх выпадках вызваляецца датэрмінова. Пры ўмовах добрых паводзін.

Вызваліўся і паехаў у вёску з мэтай папоўніць рады паляводаў калгаса імя Суворава. А праз пяць месяцаў і адзінаццаць дзён — зноў суд, прыгавор, калонія. Справа была напярэдадні Вялікадня, які Анджэй збіраўся сустрэць пляшкай настойкі. За гэтым і паехаў у Докшыцы. У горадзе да яго падышла знаёмая, якая таксама не збіралася ўсухую адзначаць свята, і прапанавала ўзяць спіртное ў чужой хаце. Ці мог адмовіць даме "джэнтльмен"? Мог, але не адмовіў, а падаў той самы камень, якім кампаньёнка разбіла шкло чужой хаты. Выкралі шэсць пляшак гарэлкі і адну спірту. Кампаньёнцы — тры гады агульнага рэжыму, кампаньёну — тры гады строгага ў Івацэвічах.

Вось так выглядае падмацаваная матэрыяламі судовай справы хроніка падзей, якія зрабілі з 21-гадовага юнака неаднаразова асуджанага Пышкіна Анджэя Алегавіча. Усё проста і адназначна для суда: пераступіў закон — павінен быць пакараны. Усё проста і адназначна аказалася для бацькі Анджэя (для былога бацькі), з кароткай размовы з якім запомнілася яго фраза, адрасаваная сыну: натварыў — атрымай! (з націскам на апошняе слова). Камячыць, перабірае дакументы, сярод якіх характарыстыкі Анджэя, бабуля. Для яе ён не асуджаны, не злачынец. Ён — унук, родная кроў. Яе доля — шкадаваць.

...Прызнаюся, у Івацэвічы я ехала з няпростымі пачуццямі. З аднаго боку, зразумела, дваццаць адзін год, тры судзімасці, адзін з тых, хто складае злачынны свет, з другога — штурхні лёс любога ў дзесяць гадоў на вуліцу — невядома, чым бы гэта скончылася.

Івацэвічы. Зона. Мураваныя глухія сцены. Клубы дроту пад напружаннем (дакранешся — не заб'е, але шок забяспечаны). На ўваходзе — аўтаматычная сістэма аховы — мыш не праскочыць. Ніводнага пабегу за ўсю гісторыю з Івацэвіцкай калоніі. Былі выпадкі, беглі расканваіраваныя асуджаныя, якія выконвалі за межамі зоны гаспадарчыя работы. З зоны, загароджанай сістэмай аховы, не бягуць.

Адразу за прапускным пунктам, які лягчэй перайсці ў тым кірунку, чым у адваротным, — непасрэдна сама зона. Неба над галавой, а па баках — жалезныя краты, якія рэжуць тэрыторыю калоніі на лакальныя зоны: кожнаму атраду — свая зона, дзе можна шпацыраваць, сушыць бялізну. Ля некаторых атрадаў — выкананыя ў стылі а ля "дзіцячы садок" драўляныя альтанкі, павялічаныя да памераў летняй веранды.

Анджэя прыводзяць да мяне на размову ў той будынак, дзе звычайна адбываюцца спатканні асуджаных з роднымі. Ён сядзіць насупраць, зусім не падобны да таго віхрастага хлопца, чыё фота (фас, профіль) бачыла ў матэрыялах судовай справы. Шэры колер твару, худыя скулы. Малады, невысокага росту хлапец камячыць у руках чорную, куртатую турэмную шапку. На пытанні адказвае неахвотна, спачатку коратка, потым — трохі больш падрабязна.

Анджэй лічыць, што галоўную трэшчыну лёс даў у той час, калі яму, Анджэю, было адзінаццаць гадоў і калі фактычна кінуў бацька. Увогуле, да бацькі ў Анджэя вялікі рахунак. "Я яму адпомшчу", — сказаў Анджэй праз зубы. І самым дрэнным чалавекам, якога даводзілася сустракаць у жыцці, Анджэй таксама лічыць бацьку. У разрад самых лепшых трапілі чамусьці дзве дзяўчыны-блізняты, якіх і бачыў ўсяго некалькі разоў.

Ніколі не чытаў кніг. "Чаму?" — пытаюся. "Пачынаю чытаць, нешта жоўтае з'яўляецца перад вачыма". "А што дактары гавораць?". "Нармальна бачу, гавораць". Нейкі дзіўны выпадак.

Пра злачынствы свае Анджэй распавядае шчыра, не тоіць таго, што шмат краў у дзяцінстве, калі жыў на вуліцы і ў інтэрнаце. У 88-м годзе яшчэ да інфляцыі трымаў у руках вялікія грошы — пяць мільёнаў рублёў — выручку фарцоўшчыкаў. Сваіх вялікіх грошай ніколі не меў. Так, напрыклад, апошняя судзімасць — за тое, што выкраў разам з напарніцай спіртное на суму 3900 рублёў.

Не вельмі пераканана, але ўсё ж сказаў Анджэй, што любіць волю, што зона ніяк не вучыць, што выпраўляецца толькі той, хто сам хоча выправіцца, і што пасля выхаду на волю больш ён красці не стане і ў турму не вернецца.

...Грукаюць, аўтаматычна зачыняюцца жалезныя краты прапускнога пункта Івацэвіцкай калоніі строгага рэжыму. За спінай застаюцца лакальныя зоны, "будынкі казарменнага тыпу", невялікая, апранутая ў чорную спецвопратку постаць аднаго з тысяч мясцовых асуджаных — Анджэя Пышкіна, яго незайздросны, драматычны лёс, які абсалютна не заканчваецца тут, у Івацэвічах, у турме, а будзе працягвацца яшчэ доўга-доўга і стане такім, якім яго захоча зрабіць сам Анджэй.

На гэтым можна было б і закончыць. Але вось я ў Мінску, трымаю ліст ад Зінаіды Фёдараўны. "Паважаная Лілія Вікенцьеўна, вельмі ўдзячная Вам за тыя намаганні, якія Вы робіце, каб дапамагчы майму ўнуку. Тры судзімасці ў дваццаць гадоў — гэта страшна. Але яшчэ больш страшна, калі ў дваццаць чалавек ужо інвалід. Грамадскасць і закон сваё ўзялі — Анджэй нясе адказнасць. Але хто адкажа за скалечаны лёс чалавека, падлетка, дзіцяці? І галоўнае — ён нікому не патрэбен. Гэта страшныя словы. Чалавека нельга выкінуць як непатрэбную рэч. Анджэй ніколі не быў бы ў турме, калі б была да яго ўвага. Нават дарослыя маюць патрэбу ў дапамозе. Бацька раўнадушны, жорсткі, адмахнуўся ад сына пазбаўленнем бацькоўскіх правоў. Ездзіла да Анджэйкі ў турму. Перадачы ад мяне ён не ўзяў, да яго доўга не ехалі, і ён ужо чакае ад некага бандэролі. Прабачце, калі што не так. З павагай бабуля".

Сапраўды, на чые плечы ўзваліць цяжар адказнасці за лёс такіх юнакоў, як Анджэй Пышкін? Каму павінен прад'яўляць рахунак сам Анджэй за ўскаламучанае жыццё, за прывязаныя да турэмных нараў лепшыя гады? Бацькам, што адмовіліся ад яго ў тым узросце, калі сэнс жыцця маленькага чалавека і ёсць гэтыя бацькі? Інтэрнацкім выхавальнікам, якія прызвычаіліся глядзець на статыстычных "пышкіных", як на кантынгент для выпраўленчых устаноў? Нарэшце, самому сабе за тое, што ўзяў калісьці, амаль несвядома, тую першую чужую рэч і не спалохаўся адказнасці і прамаўчала сумленне? Пытанні можна доўжыць, можна раскінуць адказнасць за лёс чалавека па розных адрасах. Але, мне здаецца, сёння для Анджэя не так важна, чые плечы сагнуцца ад справядлівых абвінавачванняў. Больш важна для яго адчуць тое плячо, якое падтрымае, дапаможа выправіцца, падорыць надзею на нешта лепшае, чым бясконцыя адсідкі, малыя і вялікія тэрміны, затхлае турэмнае паветра і злачынны рэцыдыў побач.

**Віцебск—Івацэвічы—Мінск.**

---

*Цэнтральны батанічны — не проста сад, куток прыроды, гэта музей жывых раслін. Цішыня, прыгажосць і кветкавая вясёлка, што пануюць тут, вабяць людзей любога ўзросту і прафесіі.*

*На жаль, разрыў сувязей з калегамі далекага і блізкага замежжа, хранічная адсутнасць фінансаў ставяць пад пагрозу гібелі аранжарэі, дзе ўтрымліваюцца трапічныя і субтрапічныя расліны: узімку іх ацяплялі "буржуйкамі". Дык хто ж дапаможа сення Батанічнаму саду?*

**Жанна МАЁРАВА.
Фота аўтара.**

